www.nv-online.info

№ 72 (4017)

15 верасня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СТОП-КАДР

## Так мінчане адсвяткавалі Дзень горада…



ПАЛІТКУХНЯ

## Чаму Партыя БНФ «кінула» Таццяну Караткевіч…

На старце прэзідэнцкай кампаніі сябры Партыі БНФ падтрымалі вылучэнне **Таццяны Караткевіч** кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. Многія з іх стаялі ў пікетах з партрэтамі Караткевіч, збіралі за яе подпісы. І раптам партыя адмовілася падтрымліваць Таццяну Караткевіч.

Што адбылося?

Пытанні да Караткевіч у членаў Партыі БНФ узніклі ўжо па ходзе выбарчай кампаніі. У выніку яны былі вынесены на пасяджэнне Сойму – кіруючага органа партыі. Меркаванні на пасяджэнні гучалі розныя. Але ў выніку 18 сябраў Сойму выступілі за спыненне супрацоўніцтва з кампаніяй “Гавары праўду!”, якая вылучыла Караткевіч кандыдатам у прэзідэнты, 11 галасоў было аддадзена за працяг сумеснай працы, яшчэ двое ўстрымаліся.

У выніку было прынята рашэнне аб спыненні супрацоўніцтва Партыі БНФ з Таццянай Караткевіч.

Цікава, што за выхад з кампаніі Караткевіч выступіў і старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч,** хаця крыху раней менавіта ён быў актыўным прыхільнікам альянсу з былой камандай Уладзіміра Някляева. У прыватнасці, Аляксей Янукевіч заявіў: *“Таццяна Караткевіч падчас выбарчай кампаніі зрабіла шмат неакрэсленых і невыразных заяў па шэрагу пытанняў, якія з’яўляюцца базавымі для прыхільнікаў Партыі БНФ. Гэта – статус беларускай мовы, дзяржаўная і нацыянальная сімволіка, геапалітычнае становішча Беларусі. Складаецца ўражанне, што Таццяна Караткевіч як кандыдат у прэзідэнты хоча быць добрай для ўсіх і таму ў яе няма акрэсленай і выразнай пазіцыі”.*

Аднак нельга не заўважыць, што Таццяна Караткевіч першапачаткова была прыдумана як кандыдат “добры для ўсіх” – альтэрнатыва Аляксандру Лукашэнку, але не рэзкі крытык; апазіцыя, але, так бы мовіць, далікатная, мяккая. І тым не менш Партыя БНФ спачатку вырашыла ісці на выбары з ёю, а потым, паглядзеўшы на Караткевіч зблізу, нібы адумалася.

Дык чаму з-за Караткевіч пасварыліся БНФаўцы? “Народная Воля” вырашыла даць слова прадстаўнікам розных лагераў у пытанні “па Таццяне Караткевіч”.

Адным з тых, хто выступіў супраць далейшага супрацоўніцтва з Караткевіч, быў намеснік Партыі БНФ, экс-кандыдат у прэзідэнты **Рыгор Кастусёў**. Сваю пазіцыю ён растлумачыў наступным чынам:

– *Для Партыі БНФ і для мяне асабіста ёсць рэчы, праз якія я ніколі не пераступлю – гэта абарона незалежнасці Беларусі. Стаўленне да гэтай святыні я ніколі не мяняў, незалежна ад сітуацыі ў краіне. І калі да базавых пытанняў, на якіх грунтуецца ідэалогія БНФ, ставяцца дваяка, дык мяне гэта насцярожвае. Пры размовах са мной (а я ўдзельнічаў у многіх мерапрыемствах) Таццяна Караткевіч казала адно, а ў іншых месцах – зусім супрацьлеглае. Такія падыходы для мяне непрымальныя. Я лічу, і многія нашы партыйцы лічаць, што пазіцыя па кожным пытанні павінна быць цвёрдай і ніякіх адхіленняў ад абароны агульнанацыянальных каштоўнасцяў быць не павінна. Няма акрэсленай пазіцыі Таццяны Караткевіч па наяўнасці іншаземных ваенных баз у Беларусі, па выхадзе з міждзяржаўных саюзаў, у якіх удзельнічае Беларусь. Таму я і выступіў за выхад нашай партыі з кампаніі Таццяны Караткевіч.*

Цяпер Партыя БНФ Таццяну Караткевіч на выбарах не падтрымлівае, але кожны член партыі можа асабіста вырашаць, ці ўдзельнічаць у выбарах разам з Караткевіч. Кажуць, што такое рашэнне – праява партыйнай дэмакратыі. Але ці ёсць у Партыі БНФ партыйная дысцыпліна? Ці ёсць пазіцыя партыі, якую павінны падзяляць ці хаця б прытрымлівацца яе партыйныя актывісты? Ці ўвогуле ў Партыі БНФ дзейнічае няпісанае правіла “хто што хоча, тое і робіць”?

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Будзем з хлебам!

8,9 мільёна тон намалочанага збожжа – такі вынік сёлетняга жніва. Толькі на 540 тысяч тон менш за мінулагодні валавы збор.

Няблага папрацавалі вяскоўцы. Дзякуй ім! Будзем з хлебам!



АФІЦЫЙНА

## За што жывуць кандыдаты ў прэзідэнты?

*Цэнтрвыбаркам апублікаваў дэкларацыі аб даходах кандыдатаў у прэзідэнты.*



**Даход старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП) Сяргея Гайдукевіча склаў 263 млн 158 тыс. 324 рублі.**

Гэта даходы ад заработнай платы, пенсіі, ад продажу аўтамабіля, а таксама даход, атрыманы з-за мяжы, і штомесячнае грашовае ўтрыманне. Ва ўласнасці Гайдукевіча знаходзяцца легкавыя аўтамабілі: NISSAN X-TRAIL 2014 года выпуску і BMW 730 1996 года выпуску.

Даходы яго жонкі **Алы Гайдукевіч** ад заработнай платы і ад здачы ў арэнду маёмасці склалі 238 млн 260 тыс. 448 рублёў. У яе ўласнасці знаходзяцца: жылы дом у вёсцы Сёмкава Мінскага раёна агульнай плошчай 155 кв.метраў; зямельны ўчастак у вёсцы Сёмкава Мінскага раёна плошчай 0,25 га; аднапакаёвая кватэра ў Мінску агульнай плошчай 30 кв.метраў; аднапакаёвая кватэра ў Мінску агульнай плошчай 25 кв.метраў; двухпакаёвая кватэра ў Мінску агульнай плошчай 35 кв.метраў. Таксама яна валодае легкавым аўтамабілем RENAULT-DUSTER 2013 года выпуску.



**Даходы актывісткі кампаніі «Гавары праўду!» Таццяны Караткевіч у 2014 годзе склалі 60 млн 86 тыс. 98 рублёў.**

Гэта даходы ад заработнай платы і даходы, атрыманыя па дагаворы дарэння. Нерухомай маёмасці і транспартных сродкаў у яе ва ўласнасці няма.

Даходы яе мужа **Віталя Караткевіча** склалі 40 млн 47 тыс. 237 рублёў. У яго ва ўласнасці знаходзяцца легкавыя аўтамабілі FORD SCORPIO 1988 года выпуску і HONDA ACCORD 1998 года выпуску. Даходы маці Караткевіч **Наталлі Халецкай** склалі 108 млн 536 тыс. 6 рублёў, у яе ва ўласнасці знаходзіцца кватэра ў Мінску агульнай плошчай 62 кв.метры.



**Даход дзеючага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў 2014 годзе ад заработнай платы склаў 551 млн 761 тыс. 258 рублёў.**

Іншыя даходы і ўласнасць у яго, згодна з дэкларацыяй, адсутнічаюць.

Даходы жонкі дзеючага прэзідэнта **Галіны Лукашэнкі** ад заработнай платы, пенсіі і дывідэндаў склалі ў 2014 годзе 98 млн 223 тыс. 332 рублі. У яе ва ўласнасці знаходзяцца: жылы дом у Шклове Магілёўскай вобласці агульнай плошчай 115 кв.метраў; 1/2 доля ў праве ўласнасці на жылы дом у вёсцы В.Межнік Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці агульнай плошчай 53 кв.метры; 56 акцый ААТ «Шклоўскі масларобны завод».



**Даходы старшыні Беларускай патрыятычнай партыі, вярхоўнага атамана РГА «Беларускае казацтва» Мікалая Улаховіча ў 2014 годзе ад заработнай платы і пенсіі склалі 243 млн 502 тыс. 475 рублёў.**

У яго ва ўласнасці знаходзяцца: жылы дом у вёсцы Яцкаўшчына Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці агульнай плошчай 82 кв.метры; зямельны ўчастак у вёсцы Яцкаўшчына Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці плошчай 0,25 га; жылы дом у вёсцы Млын Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці агульнай плошчай 45 кв.метраў; 240 тысяч акцый ААТ «Парытэт банк».

Даходы яго жонкі **Раісы Улаховіч** ад заработнай платы і пенсіі склалі 235 млн 323 тыс. 678 рублёў. У яе ва ўласнасці знаходзіцца: кватэра ў Мінску агульнай плошчай 148 кв.метраў; гараж-бокс у Мінску плошчай 24 кв.метры; адміністрацыйна-гандлёвае памяшканне ў Мінску плошчай 64 кв.метры (доля – 99/100); адміністрацыйнае памяшканне ў Мінску плошчай 34 кв.метры (доля – 99/100); гандлёвае памяшканне ў Мінску плошчай 16 кв.метраў (доля – 99/100); гандлёвае памяшканне ў раёне вёскі Азярцо Мінскага раёна плошчай 10 кв.метраў.

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Не спазніцеся з падпіскай на IV квартал!

Ведаем: у многіх з Вас, шаноўныя чытачы, тэрмін падпіскі на газету заканчваецца ў канцы верасня, і, каб атрымліваць “Народную Волю” ў IV квартале, трэба яе прадоўжыць.

Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку” да 28 верасня. Не спазніцеся!

**Вы – з “Народнай Воляй”,**
**“Народная Воля” – з Вамі!**

ДА ВЕДАМА...

## Калі будуць выступаць кандыдаты ў прэзідэнты

Сёння, 15 верасня, пачынаюцца выступленні кандыдатаў у прэзідэнты на тэлебачанні, а з наступнага тыдня – па радыё.

| Кандыдат у прэзідэнты | ТВ, Беларусь1 | Радыё, Першы нацыянальны канал |
|---|---|---|
| Сяргей Гайдукевіч | **15 верасня** (19.30–20.00)<br>**25 верасня** (19.30–20.00) | **23 верасня** (6.10–6.40)<br>**30 верасня** (6.10–6.40) |
| Аляксандр Лукашэнка | **16 верасня** (19.30–20.00)<br>**23 верасня** (19.30–20.00) | **23 верасня** (6.40–7.10)<br>**30 верасня** (6.40–7.10) |
| Таццяна Караткевіч | **17 верасня** (19.30–20.00)<br>**24 верасня** (19.30–20.00) | **25 верасня** (6.10–6.40)<br>**2 кастрычніка** (6.40–7.10) |
| Мікалай Улаховіч | **18 верасня** (19.30 –20.00)<br>**22 верасня** (19.30–20.00) | **25 верасня** (6.40–7.10)<br>**2 кастрычніка** (6.10–6.40) |

Згодна з заканадаўствам, кандыдаты не абавязаны выкарыстоўваць магчымасць звярнуцца да выбаршчыкаў па ТБ і радыё ў адведзены час. І, напрыклад, у леташнюю перадвыбарную кампанію Аляксандр Лукашэнка менавіта праз выступленні, адведзеныя кандыдатам, да выбаршчыкаў не звяртаўся.

Дарэчы, на **3 кастрычніка на 17:00** на тэлеканале «Беларусь 1» прызначаны тэледэбаты кандыдатаў у прэзідэнты. Для гэтага будзе адведзена 60 хвілін эфірнага часу. На дэбатах кандыдата можа прадстаўляць давераная асоба.

ПАЗІЦЫЯ

*Падобна на тое, што на гэтых прэзідэнцкіх выбарах апазіцыі ўсё ж такі ўдалося аб’яднацца. Праўда, не на ідэі ўдзелу ў выбарах з адзіным кандыдатам, а на ідэі няўдзелу ў выбарах. Падчас “круглага стала” ў офісе Аб’яднанай грамадзянскай партыі палітыкі падпісалі сумесную заяву, агучыўшы агульную пазіцыю. Прычым подпісы, якія ўжо стаяць, – гэта толькі пачатак. Заява адкрытая, працэс падпісання працягваецца.*

ЗАЯВА

## Вярнуць права выбару

Канстатуючы, што ў Беларусі няма сумленных і справядлівых выбараў, таму што:

– дзяржава абмяжоўвае магчымасці палітычнай дзейнасці і падвяргае апанентаў палітычным рэпрэсіям, у тым ліку пазбаўляючы іх права ўдзелу ў выбарах;

– асноўныя СМІ, у першую чаргу тэлебачанне, у Беларусі манапалізаваны дзяржавай і сталі прыладамі прапаганды на карысць аднаго чалавека, а незалежныя СМІ падвяргаюцца дыскрымінацыі, у выніку чаго грамадзяне краіны атрымліваюць неаб’ектыўную інфармацыю;

– выбарчыя камісіі фарміруюцца з лаяльных да ўлады людзей (членаў апазіцыйных партый у іх 0,65%);

– склад выбарчых камісій дае падставы сцвярджаць, што ў чарговы раз фактычна не будзе ажыццяўляцца падлік галасоў выбаршчыкаў, будуць агучаны загадзя падрыхтаваныя дадзеныя, а ў назіральнікаў не будзе магчымасці бачыць падлік бюлетэняў;

– залежных ад улады грамадзян прымусяць да датэрміновага галасавання, пракантраляваць якое немагчыма, а вынікі яго заўсёды амаль на 100% на карысць праўладных кандыдатаў;

канстатуючы, што ў 2015 годзе не адбылося істотных пазітыўных змен ні ў выбарчым заканадаўстве, ні ў праваўжывальнай практыцы, якія маглі б сведчыць пра які-небудзь прагрэс;

адзначаючы, што ўсё менш людзей бяруць удзел у выбарах у якасці кандыдатаў з прычыны ўсведамлення немагчымасці перамогі ў кампаніях, якія з’яўляюцца не выбарамі, а іх імітацыяй;

адзначаючы, што ўсё менш грамадзян бяруць удзел у галасаванні, лічачы гэта бессэнсоўным;

мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь з рознымі палітычнымі поглядамі, заяўляем:

1.Выбары ў Беларусі як дэмакратычны інстытут перыядычнай смены ўлады знішчаны кіраўніцтвам краіны і з’яўляюцца толькі фальшывай імітацыяй.

2.Мы заяўляем аб сваім няўдзеле ў выбарчым фарсе і нагадваем грамадзянам Беларусі аб іх праве, замацаваным у артыкулы 65 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, асабіста вырашаць, удзельнічаць ім у галасаванні ці не.

3.Мы патрабуем правядзення ў Беларусі вольных і сумленных выбараў паводле стандартаў АБСЕ, якія адновяць давер людзей да дзяржавы, выведуць краіну з эканамічнага і палітычнага тупіка і створаць магчымасць для цывілізаванага дэмакратычнага развіцця.

4.Мы заяўляем, што будзем рабіць усё ад нас залежнае, каб вярнуць павагу да людзей і вярнуць ім права выбару.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, экс-кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года,**
**Мікола СТАТКЕВІЧ, экс-кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года,**
**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі,**
**Ірына ВЕШТАРД, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада),**
**Алена ЯСЬКОВА, старшыня аргкамітэта па стварэнні жаночай партыі “Надзея”,**
**Віталь РЫМАШЭЎСКІ, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі БХД і іншыя.**

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

## Александр Лукашенко улетел в зону конфликта

В понедельник Александр Лукашенко покинул Беларусь и вылетел в Душанбе для участия в саммите Организации договора о коллективной безопасности (ОДКБ). Одна из главных тем встречи – выработка мер по противодействию активизации террористических и экстремистских группировок в Центральной Азии. Беларусь, являясь членом ОДКБ, не может дистанцироваться от проблем, казалось бы, не самого близкого нам региона.

Рост проблем на этом направлении связан с целым рядом факторов: нестабильность в соседнем Афганистане, негативное влияние со стороны «Исламского государства» в Сирии и Ираке, общая тяжелая ситуация на постсоветском пространстве в связи с войной в Украине и интенсификацией геополитического противостояния Запада и России. Плюс экономический кризис в ряде постсоветских стран, связанный с низкими ценами на энергоносители на мировых рынках и разрушительным влиянием взаимных санкций России и стран Запада.

В частности, в начале сентября в Таджикистане, где и проходит саммит, имели место вооруженные инциденты – антиправительственные выступления во главе с бывшем заместителем министра обороны Абдухалимом Назарзодой, возглавившим «бунт десантников». В последовавшем вслед за этим разговоре между президентом России Владимиром Путиным и президентом Таджикистана Эмомали Рахмоном Москва подтвердила свою готовность помогать в обеспечении стабильности в республике. Видимо, об этой помощи, включая ее военные и экономические аспекты, будет идти речь на отдельной двусторонней встрече глав России и Таджикистана, который пройдет «на полях» саммита ОДКБ.

Важно отметить, что именно ОДКБ выступает основным механизмом оказания российской помощи. По этой линии Таджикистан уже получает крупные партии оружия по льготным ценам или вообще бесплатно, а также проводит обучение в России таджикских офицеров. В стране в рамках Договора о коллективной безопасности и двусторонних соглашений также расположена российская 201-я база.

В контексте подготовки к заседанию в Душанбе генеральный секретарь ОДКБ Николай Бордюжа заявил, что в ближайшее время военно-техническая помощь Таджикистану будет наращиваться. Он отметил, в частности: «Мы исходим из главного постулата: Таджикистан – форпост на пути проникновения в центральноазиатский регион. И вообще на территории ОДКБ очень многих вызовов и угроз, которые связаны и с терроризмом, и с экстремизмом, незаконным оборотом наркотиков, незаконной миграцией и так далее. Таджикистан стоит на острие всех этих проблем, и ему нужно оказывать помощь».

Но интрига в том, что не только Россия, а и другие страны ОДКБ, в том числе Беларусь, должны помогать Таджикистану. Как? Чем?

Всего в Душанбе планируется рассмотреть более 20 актуальных вопросов политического, военного и военно-технического характера. ОДКБ до сих пор не являлась и, стоит надеяться, в будущем не станет механизмом вмешательства во внутренние дела государств, которые часто связаны с конфликтами между враждующими клановыми группировками. В частности, силы ОДКБ не использовались в соседнем Кыргызстане в ходе двух прошедших в этой стране революций. Киргизский народ имел возможность сам устанавливать и менять власть в своей стране. То же самое относится и к Таджикистану в контексте имевших недавно место вооруженных столкновений. ОДКБ – это механизм обеспечения безопасности государств-членов, прежде всего от внешних угроз. По крайней мере так говорилось до недавнего времени. Однако в преддверии саммита в Душанбе эксперты высказывали опасения, что неудавшийся военный мятеж в Таджикистане может стать предлогом для того, чтобы ОДКБ стала механизмом подавления не только внешних угроз, но и внутренних бунтов.

**Олег СНОВ.**

***Сёння на сярэдні месячны заробак каля 7 мільёнаў рублёў пры кошце пляшкі гарэлкі 53 тысячы рублёў можна купіць 66 літраў 40-градуснай. Некалі гарэлка каштавала 2 рублі 67 капеек. Пры сярэднім заробку прыкладна 120 рублёў можна было набыць усяго 44 пляшкі гарэлкі (22 літры). Што ж гэта за дзяржаўная палітыка, якая стварае ўмовы для таго, каб людзі захлыналіся ў спіртным? З-за алкагалізацыі нацыя знаходзіцца на мяжы знішчэння. Ратуйцеся, беларусы!***

ГАСЦЁЎНЯ "НАРОДНАЙ ВОЛІ"

## Наталля ДУХНОВА:
# «З Марынай мне проста – мы жывём на адной хвалі»



*Марына Арзамасава з нядаўняга чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы, што прайшоў у Пекіне, вярнулася трыумфатарам. Феерычны забег беларускі на дыстанцыі 800 метраў прынёс ёй залаты медаль. Кадры, якія адлюстравалі фініш Марыны Арзамасавай і яе шчаслівыя слёзы, бачылі многія. Але ў гэты момант плакала яшчэ адна жанчына – трэнер чемпіёнкі Наталля Духнова. І не толькі ад радасці за сваю выхаванку, але яшчэ ад жалю, што хвіліну Марынінай славы не можа раздзяліць з ёй мама – Рая Аглетдынава, з якой Наталля Станіславаўна блізка сябравала і якая заўчасна пайшла з жыцця ў 39 гадоў... У шчырай і вельмі цёплай размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" Наталля Духнова распавяла пра сваю выхаванку, пра метады, якімі карыстаецца ў сваёй трэнерскай працы, пра тое, за што ўдзячна Марыне Арзамасавай, і пра многае іншае...*

### Маміна дачка

– Сваю спартыўную кар'еру я скончыла з-за траўмы, несумяшчальнай з далейшымі выступленнямі на высокім узроўні, – *расказвае Наталля Станіславаўна.* – Адбылося гэта ў сезоне-2005/2006. І перада мной паўстала пытанне: чым займацца далей?

Па шчырасці, тады я не бачыла сябе трэнерам. Я хацела назаўжды сысці са спорту. Прыглядалася да "цывільных" спецыяльнасцяў, нават скончыла курсы стылістаў у Мінску. І магла б, напэўна, скласці канкурэнцыю Сяргею Звераву (*смяецца*). Але...

**– Жыццё змяніла сустрэча з вашай будучай выхаванкай?**

– Так. У той момант я і сустрэла Марыну. Яна, вярнуўшыся з Калінінграда, трэніравалася ў Мінску. Селі, пагаварылі, Марына расказала пра сябе. Яна сфарміравалася як чалавек, як асоба. Я адчула, што мы ў нечым падобныя, нашы погляды на многія рэчы і ў жыцці, і ў спорце супадаюць. І Марына стала маёй першай вучаніцай.

Прызнаюся: я ўжо тады ўбачыла ў гэтай дзяўчынцы вялізны патэнцыял. Калі гаварыць прафесійнай мовай, то яна была вельмі добрым матэрыялам для работы. Мэтанакіраваная, па-спартыўнаму ўпартая, працавітая...

**– Напэўна, усе гэтыя якасці былі закладзены ў Марыне на генетычным узроўні – ад мамы...**

– Вы маеце рацыю. З мамай Марыны, Равілёй Аглетдынавай, мы трэніраваліся і выступалі разам. Былі блізкімі сяброўкамі. Я ведала яе даволі добра – і як светлага, адкрытага чалавека, і як моцную, заўжды скіраваную на самы высокі вынік спартсменку.

На жаль, жыццё не заўжды бывае справядлівым. Рая (так называлі маму Марыны блізкія сябры) загінула ў аўтакатастрофе. Ёй было ўсяго 39 гадоў...

А Марыну я ведала з дзяцінства. Яна расла адкрытай, цікаўнай дзяўчынкай, разумніцай – радасцю мамы. І я заўсёды здзіўляюся і радуюся, што Марына, у раннім узросце перажыўшы такое гора, не замкнулася, не ачарсцвела, не зламалася.

### Вяселле па графіку

**– Працаваць з будучай чэмпіёнкай свету было заўжды лёгка ці ўсё ж такі даводзілася сутыкацца з дзявочымі выбрыкамі?**

– Па-рознаму бывала. Выбрыкамі ў нас называліся "думкі, скіраваныя не ў той бок". А хто ж ад іх застрахаваны? Асабліва калі табе 18 гадоў і твае сяброўкі на дыскатэкі ходзяць ды з хлопцамі фліртуюць, а ты замест гэтых радасцяў жыцця ідзеш на трэніроўку... Прызнаюся, гэтыя "няправільныя" думкі былі ў Марыны мімалётныя. Мы садзіліся і размаўлялі. Усё абмяркоўвалі. Паверце, Марына такі чалавек, які з юнацтва ведаў, чаго хоча. Яна ведала, дзеля чаго трэніруецца. Умела і ўмее сябе ў нечым абмежаваць, калі гэта трэба для справы.

**– Бягунні, як і гімнасткі, абмяжоўваюць сябе нават у лішнім піражным...**

– Ды ну! Не мая гэта методыка – абмяжоўваць спартсменку ў ежы (*пасміхаецца*). Ніякіх абмежаванняў няма. Хочаш цукерку – калі ласка. Яшчэ не хапала, каб я кантралявала, хто колькі цукерак ці булак з'еў! Такі кантроль – гэта прамы шлях да выхавання ў спартсмена нелюбові да трэнера. Я так не магу. Я хачу быць добрым трэнерам (*усміхаецца*).

Я мела на ўвазе крыху іншыя абмежаванні. Усе ж мы жывыя людзі, і Марына не выключэнне. Яна вельмі камунікабельная дзяўчына, ёй хочацца і з сяброўкамі па горадзе прагуляцца, і на свята нейкае да знаёмых пайсці. Але ўсё ўпіраецца ў трэніровачны графік.

Я вам болей скажу: вяселле Марыны – і тое адбылося толькі тады, калі гэта дазволіў графік трэніровак. Нам было важна, каб дата не перасякалася са зборамі... Вось ён – адваротны бок вялікага спорту.

### Максімалізм у дапамогу

**– Ці можна сказаць, што вы з Марынай сяброўкі?**

– Хутчэй я для яе як старэйшая сястра. Я адчуваю, што для Марыны я блізкі чалавек, якому яна можа адкрыцца, у нейкім сэнсе я для яе аўтарытэт. Важна, што Марына мне давярае. Той прадмет, які я "выкладаю", сама знаю знутры, а не ў тэорыі. Калі б я была дзяўчынкай пасля Інстытута фізкультуры з чыста тэарэтычнымі ведамі – гэта адно, а мне, на шчасце, давялося самой пакаштаваць вялікага спорту, я ведаю яго смак. Таму з Марынай мне проста – мы жывём на адной хвалі, гучым у адной танальнасці.



**– Наталля Станіславаўна, прызнайцеся: можаце крычаць на спартсмена ці сварыцца з ім?**

– Не, гэта зноў жа не мае метады. Ніколі не сваруся і не падвышаю голас. А навошта? Крык не ўплывае на канчатковы вынік. Пра сябе магу сказаць, што я вельмі скрупулёзны трэнер. Мне заўжды патрэбна дакапацца да ісціны, раскласці ўсё па палічках. Толькі пасля гэтага, калі сама ва ўсім разбяруся, я выходжу на дыялог са спартсменам. Я вам раскажу пра такі эпізод. Марына максімалістка і на трэніроўках раз-пораз імкнецца рабіць некаторыя заданні лепш, чым гэта ад яе патрабуецца...

**– І што ж у гэтым дрэннага?**

– Кожны трэнер мае ўласную методыку работы са спартсменам, уласны графік. Усё распісана: калі якія нагрузкі даваць. Я не дэспатычны трэнер і не прыхільніца лішніх нагрузак.

Дык вось з Марынай часцяком адбываецца наступнае. Я падыходжу і прашу: вось адрэзак дыстанцыі, яго трэба прабегчы за пэўны прамежак часу. Хутчэй не трэба. Бо ў галаве трымаю цэлы комплекс заданняў для спартсменкі. І што, вы думаеце, робіць Марына? Правільна, прабягае хутчэй, чым я прашу, і ходзіць уся такая задаволеная і шчаслівая. Тады я тлумачу: "Марыначка, гэта ж не галоўнае заданне на бягучым этапе, навошта ты прабегла хутчэй?" Ну і пачынаю дэманстратыўна збіраць рэчы, кажу: "Не будзеш слухацца – я паеду дадому..." Смяёмся, але прыём дзейнічае.

І гэты Марынін максімалізм мне дапамагае на адказных стартах. Там я, бывае, дастаю блакнот, дзе запісаны нейкія прамежкавыя трэніровачныя вынікі, і кажу: "У мяне ўсё занатавана, ты можаш дасягнуць гэтага выніку".

### Медаль – адзін на ўсіх

**– Наталля Станіславаўна, перад паездкай на чэмпіянат на вас выходзілі чыноўнікі ад спорту? Медаль патрабавалі?**

– Скажу вам шчыра: такога і блізка не было. Увогуле, я вельмі ўдзячна і старшыні федэрацыі лёгкай атлетыкі Вадзіму Дзевятоўскаму, і галоўнаму трэнеру нашай зборнай Ігару Сівадзедаву за той кантакт, за дыялог паміж намі. З імі вельмі лёгка працаваць: аператыўна былі выкананы ўсе просьбы, якія прагучалі з майго боку. І пры гэтым ніхто не выкручваў рукі, не стаяў над душой, кроў з носу патрабуючы медаль.

**– Прыгадайце ваш "залаты" дзень...**

– Адразу скажу, што ўсе размовы аб чэмпіянатах свету ці Еўропы ў нас адбываюцца задоўга да стартаў. Я высвятляю, ці гатова Марына змагацца, і выбудоўваю трэніровачны працэс.

А што да "залатога" дня... Пачну з таго, што на ўсіх адказных стартах мы з Марынай жывём у адным нумары. І адно з правілаў у нас такое: пра спаборніцтвы гаворым менш за ўсё. Мы можам абмяркоўваць што заўгодна: навінкі моды, знешнасць, вырашаць, хто каму яешню будзе смажыць... На старце не зацыкліваемся.

Я не казала Марыне, што яна абавязкова стане першай. Я ёй проста сказала: "Ты тут лепшая і больш за ўсіх мне падабаешся". Кожны сантыметр дыстанцыі ў нас быў распісаны. Каб трохі расслабіць спартсменку, я папрасіла яе ставіцца да фінальнага забегу чэмпіянату свету як да трэніровачнага. І ў нас усё атрымалася!

**– Як адзначылі перамогу?**

– Не паверыце – яшчэ ніяк. Сезон жа яшчэ не скончыўся. Потым збяромся сем'ямі за святочным сталом, адсвяткуем. Дарэчы, несправядліва будзе не сказаць пра тое, што ў гэтым залатым медалі ёсць вялікая заслуга нашых другіх палавінак. За паўтара месяца да старту муж Марыны Ілля быў яе спарынг-партнёрам на трэніроўках. Яны разам бегалі, разам займаліся ў трэнажорцы. Мой муж Аляксандр дапамагаў Марыне ў плане агульнафізічнай падрыхтоўкі. Так што гэты медаль у нейкім сэнсе адзін на ўсіх.

**– Шкада толькі, што мама переможцы гэтага не бачыць...**

– Чаму ж не бачыць? Я ўпэўнена, што за нас перажывалі нават і на небе. Адтуль, з нябёсаў, пазіраючы на Марыну, за яе радуецца самы светлы анёл – яе мама.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ШАХМАТЫ

## Две двухходовки



Автор задачи, представленной на диаграмме, – наш читатель **Николай Наруть** из г.п.Плещеницы Логойского района.

**Белые:** Крс7, Фg5, Kd6, Kf3, пп.b4, d3 (6).

**Черные:** Крd5, Фе5, Са1, пе6 (4).

**Мат в 2 хода.**

Николай Иосифович прислал и другую свою задачу:

**Белые:** Крd3, Лс6, Cd7, Kg4, Kg7, пп.c2, e2 (7).

**Черные:** Крd5, Се3, Ка8, Kh7, пп.b4, e6 (6).

**Мат в 2 хода.**

Присылайте ответы на адрес редакции (220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: vadim_ne67@mail.ru.

## Обратная связь

Хотя решения опубликованных в нашем разделе задач наиболее оперативно приходят по электронной почте, мы не оставляем без внимания и читательские отклики в привычных конвертах. Правильно решили ряд заданий из летних выпусков Леонид Колодко (Жодино), И.Гулик (Марьина Горка), 5-классник брестской гимназии №2 Ростислав Костючик, Герман Волошко (его ответ прислал нам дедушка Германа – П.Фурсов из Новополоцка). Кроме решения задач рассуждениями на шахматные темы делится в письмах 86-летний минчанин Альберт Наумович Литвинов. Некоторые читатели предлагали варианты, альтернативные авторским, но строгий компьютер опроверг эти попытки. А в трехходовке Александра Белого из Орши, посвященной недавнему юбилею «Народной Воли», компьютерный анализ выявил, помимо авторского решения 1.Ce6, побочные: 1.Cg2 и 1.Cf5.

Задача В.Вовнейко (от 25 августа) решается так: 1.Фg8! Первыми решения прислали Сергей Пунько (Минск), Владислав Каташук (Брест), Василий Жукович (Минск).

## Турнир за турниром

В Варшаве на Мемориале М.Найдорфа (83 участника) Андрей Жигалко оказался шестым. Сергей Азаров в Нью-Йорке был десятым из 70 игроков, а в Вашингтоне (56 участников) – четвертым. Во французском Сен-Ло Станислав Цыганчук занял 5-е место. В чешской Пардубице чемпион Беларуси Кирилл Ступак в «парном турнире» (38 команд по 2 человека) вместе с россиянином Михаилом Можаровым вышел победителем, в быстрых шахматах (153 участника) был вторым. Здесь же в основном турнире (289 участников) Андрей Ковалев занял 4-е место. Андрей Горовец финишировал пятым в американском Сен-Луисе, а затем – в Финиксе (491 участник!). Во французском Эвиане (404 участника) Никита Майоров занял 5-е место, Сергей Каспаров – 11-е. В Планкоэте (Франция) из 145 участников Сергей Каспаров – 7-й, Татьяна Каспарова – 13-я, а Никита Майоров – 14-й. На турнире в Бельгии (152 участника) Сергей Каспаров финишировал пятым, Татьяна Каспарова – 14-й. В Лиепае (104 участника) в быстрых шахматах Владислав Ковалев был вторым, Алексей Александров – третьим. В финальном поединке восьми гроссмейстеров в этом же городе В.Ковалев оказался третьим, затем на турнире в Риге – девятым из 191 участника. Алексей Александров занял второе место на турнире в Петербурге по «шахматам Фишера» (с измененной начальной расстановкой), а в основном турнире был 14-м из 186 участников (Кирилл Ступак – пятым). Андрей Ковалев завоевал «серебро» на Мемориале А.Рубинштейна в Польше, а Андрей Жигалко – «бронзу» на турнире в Турции (105 игроков). Турнир в Гродно выиграли Наталья Кусенкова и Валентин Ежель, в Кобрине – Станислав Цыганчук. А шахматисты-заочники Беларуси в матче обыграли Финляндию – 33:17.

**Вадим ЖИЛКО.**

СЛЫШАЛИ?

## Побратались...

*Минск и Тбилиси стали городами-побратимами. Соглашение о побратимских связях в городской ратуше белорусской столицы подписали председатель Мингорисполкома Андрей Шорец и мэр Тбилиси Давид Нармания.*

«Соглашение подписано в целях развития международных, экономических и культурных связей, – отмечалось во время церемонии, – и будет способствовать установлению и расширению двусторонних отношений в экономической, научно-технической, культурной сферах, развитию инвестиционной и инновационной деятельности, сотрудничеству в области здравоохранения, образования, культуры и спорта, обмену информацией о развитии городов с учетом организации местного самоуправления».

Тбилиси стал 20-м городом-побратимом Минска.

ВПЕРВЫЕ

## В Минске открылась крупнейшая в Беларуси частная художественная галерея

*Накануне события директор новой галереи «Дом картин» **Лариса Бортник** отмечала: «У нас вообще мало галерей, в основном салоны-магазины. Есть Дворец искусства, но там часто проводят ярмарки. И крупные выставки было некуда привезти».*





Дебютная выставка новой галереи – это уникальное собрание из почти трехсот работ народных художников Беларуси.

*«Художники, получившие это высокое звание за всю историю белорусского искусства, – это 31 человек. Мы же взяли, исходя из собственных пристрастий в живописи и графике, 19»,* – отмечает Лариса Бортник.

Она напомнила, что картины народных художников Беларуси государство закупало в музеи, но часть осталась на руках у родственников, друзей, коллекционеров. Так удалось собрать эту коллекцию из 300 картин. В том числе на выставке представлены работы Михаила Савицкого, Павла Масленникова, Витольда Бялыницкого-Бирули, Гавриила Ващенко и других.

В живых сейчас только семь народных художников, некоторым уже за 90. Но, например, Леонид Щемелёв, Георгий Поплавский и Вильмен Аладов открытие выставки не обошли.

С 1 октября и до конца года в «Доме картин» можно будет увидеть еще один уникальный проект «Великие классики XX века». В экспозицию войдут более 200 работ трех мастеров – Сальвадора Дали, Марка Шагала и Анри Матисса.

А в следующем году в «Доме картин» будут выставляться работы Пикассо, Кандинского, Миро.

*«Также мы поддерживаем контакты с зарубежными галереями, чтобы искать интересные выставки и в конечном итоге представлять у нас в галерее»,* – подчеркнула Лариса Бортник.

Вход в галерею будет платный – от 50 тысяч до 100 тысяч рублей в зависимости от характера выставки. Школьникам, студентам и пенсионерам билет обойдется в 30 тысяч. Открылась частная художественная галерея в современном здании на проспекте Победителей, 89. «Дом картин» занял более тысячи квадратных метров.



ВАС ИНТЕРЕСУЕТ

## За Викторию Азаренко поболеем в конце сентября

***Следил за недавним выступлением Виктории Азаренко на Открытом чемпионате США по теннису. Прекрасно начала турнир наша спортсменка, но в четвертьфинале проиграла второй ракетке мира румынке Симоне Халеп.***

***Когда наша теннисистка снова выйдет на корт, и мы сможем поболеть за нее?***

А.Юрец, Минск.



Открытый чемпионат США – заключительный в этом году турнир Большого шлема. Но теннисисты не спешат на отдых.

На очереди – азиатская серия турниров. Стартует она в конце сентября, всего состоится три турнира.

***Wuhan Open (Premier5) – с 27 сентября по 3 октября***

***China Open (Premier Mandatory) – с 3 по 11 октября***

***Prudential Hong Kong Tennis Open (International) – с 12 по 18 октября.***

Так что Викторию мы увидим на соревнованиях в китайском Ухане, стартующих 27 сентября. Поклонники белорусской теннисистки на своей страничке «Вконтакте» написали: «Ждём снова мотивированную и голодную до больших побед Вику уже в Азии!»

К слову, после выступления в США позиция Виктории Азаренко в мировом рейтинге WTA ухудшилась. Белоруска опустилась с 20-го на 23-е место. В тройке лучших теннисисток мира – американка Серена Уильямс, румынка Симона Халеп и россиянка с белорусскими корнями Мария Шарапова.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

УСМІХНІЦЕСЯ!

***

У жыхара сталіцы пытаюцца:
– Чаму вы ўвесь час п'яны?
– А што рабіць, калі па ўсім Мінску вісяць плакаты "За Беларусь!"?

***

– Колькі чалавек працуе ў вашай кампаніі?
– З кіраўнікамі – дваццаць.
– А без кіраўнікоў?
– А без кіраўнікоў увогуле ніхто не працуе.

***

Муж:
– Ты перасаліла!
Жонка:
– Гэта таму, што я кахаю цябе.
– Гэта ж як трэба мяне кахаць, каб перасаліць торт?

* **

– Каханы, я ўжо гатова да дзяцей.
– А я не!
– Нічога не зробіш: лета скончылася, і трэба забіраць іх з вёскі.

***

Лепшы спосаб распавесці дзецям, што такое падаткі, – з'есці 13% ад іх марожанага.

***

А ці нельга неяк больш сціпла корм для жывёл называць? Чаму мая котка жарэ «рагу з труса ў сметанковым соўсе», а я – макарону з сасіскай?

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 14.09.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25450 экз. Заказ №3556).